Цана асобнага нумару 20 грошаў.

# Сын Беларуса

Адрэс рэдакцыі і адміністрацыі: **Вільня, Віленская вул. 12, п. 6.** (Wileńska 12 m. 6).
Рэдакцыя адчынена ад **12** да **2** г. штодня апрача сьвяточных дзён. Адміністрацыя ад **9** да **3** г.

**Выходзіць тры разы у тыдзень.**
Падпіска на **адзін месяц** з дастаўкай да хаты **2 злотыя**
Для заграніцы удвая даражэй.

Няпрынятыя у друк рукапісы назад не вяртаюцца.
Аплата надрукованага залежыць ад Рэдакцыі.
Цана абвестак: перад тэкстам 25 грош., сярод тэксту 20 грош. і на 4 стр. 15 грош., за радок пэтыту у 1 шп.

№ 30. Вільня, Пятніца, 22-га жніўня 1924 г. Год I.

## Новы мір.

Вядомы італьянскі палітык Нітті, былы міністар і галава італьянскага ўраду, напісаў нязвычайна цікавую кніжку пад характэрным назовам: *„Эўропа бяз міру“*. Ужо самы гэты назоў гаворыць аб тым, як Нітті глядзіць на „трываласьць“ Вэрсальскага Міру, абапертага на тым, што дзяржавы-пераможцы *прымусілі* Нямеччыну падпісаць усё, чаго жадала Францыя, ап'янеўшая ад пачуцьця перамогі над сваім старым, заклятым ворагам.

Вэрсальскі Трактат выявіў у поўнай меры апэтыты Францыі і яе саюзьнікаў. Але жыцьцё вельмі хутка паказала, што францускі максімалізм—зусім ня мае рэальных падставаў пад сабой. Аказалася, што зусім ня так лёгка зьдзейсьніць тое, на што Нямеччына, ўзятая за горла, была прымушана даць сваю згоду. I, вельмі хутка пасьля падпісаньня міравое ўмовы ў Вэрсалю, Францыя ізноў схапілася за аружжа і заняла сваім войскам найбагацейшы і найважнейшы для эканамічнага жыцьця Нямеччыны район. Вынікам гэтага было тое, што Нямеччына перажыла страшэнна востры фінансавы і эканамічны крызіс і, калі раней *не хацела* выпаўніць пастаноў Вэрсальскага Трактату, дык пасьля францускае акупацыі Рурскае краіны бязумоўна *не магла* гэтага зрабіць. А ў сувязі з нямецкім крызісам пачаўся востры эканамічны і фінансавы крызіс блізу па усей Эўропе,—перадусім у самай-жа Францыі, выклікаўшай яго!

„Калі ня хочам,—пісаў Нітті,—каб пераможцы і пераможаныя ўпадалі адзін за адным, але каб супольная доля аб'яднала тых, што лішне доўга ненавідзілі і ненавідзяць сябе ўзаемна, — трэба сказаць вялікае слова міру“,—ведама, не таго, вэрсальскага, а новага, абапертага *на угодзе* абедзьвюх старон.

Коратка кажучы, Нітті прапанаваў паставіць крыж на вэрсальскай умове і зрабіць *новы мір*.

Лёнданская Канфэрэнцыя і прадстаўляе першы крок на дарозе да гэтага новага міру, абапертага на паразуменьні між Нямеччынай і дзяржавамі-пераможцамі. I хаця ў аснову лёнданскага пратаколу ляглі галоўныя вымаганьні Вэрсальскага Трактату, Нямеччына ў Лёндане выступала ўжо, як *роўны перад роўнымі*. А гэта-ж і ёсьць крыж на Вэрсалю: там усё вялося да таго, каб *Нямеччыну аслабіць і мілітарна і эканамічна*; тут—у аснове прынятага пляну Доўса—ўсё мае на мэце атрымаць ад Нямеччыны адшкадаваньні, але адначасна з гэтым *узмацаваць яе эканамічна* і нанова ўвясьці ў „сям'ю народаў“.

Ясна, што, раз мяняюцца прынцыповыя пагляды дзяржаў-пераможцаў на Нямеччыну, дык павінна адпасьці і ўсё тое, што нязгодна з новым палажэньнем. Значыць, далейшым крокам у кірунку завядзеньня запраўднага міру ў Эўропе можа аказацца перагляд і тых пунктаў Вэрсальскага Трактату, якія *цяпер* ужо ня маюць ніякае мэты. Да такіх пунктаў належыць у першы чарод *справа граніц Нямеччыны*, паважна абрэзаных у Вэрсалю. I не дарма ў перагаворах паміж дзяржавамі-пераможцамі і Нямеччынай аб новым—лёнданскім міры ня прыймала ўчасьця Польшча, не дарма ніхто, ня гледзячы на дама...

...мунта, не сказаў ні слова аб забясьпечаньні Польшчы ад нападу з боку немцаў....

Але Нітті ў сваей кніжцы бачыць прычыну таго, што „ў Эўропе няма міру“, ня толькі ў адносінах вялікіх дзяржаў да пераможанае Нямеччыны. Чародны пункт запраўднага замірэньня ў Эўропе — гэта справа адносін да СССР. Падпісаньне англійскае ўмовы з СССР зьяўляецца першым крокам да ўзнаўленьня нармальных адносінаў з гэтым вялізарным краем. За Англіяй пойдуць і другія дзяржавы—з Францыяй наперадзе. А раз гэта так, дык споўніцца і прароцтва Нітті аб тым, што „вал, які Польшча хоча стварыць паміж Нямеччынай і Расеяй, гэта абсурд і хутка павінен разваліцца“. Бо-ж, запраўды, замірэньне Антанты з Нямеччынай, якое прадбачыць стварэньне для апошняе магчымасьці эканамічнага адраджэньня, павінна, як і прадбачыў Нітті, нечым замяніць утрачаныя немцамі калёніі. „Трэба, — пісаў Нітті, — папхнуць цяпер Нямеччыну ў кірунку Расеі, дзе яны толькі і здолеюць знайсьці ўсё тое, што ім патрэбна для вялізарнага насяленьня і для выплаты ўзятых на сябе забавязаньняў“.

Вось-жа і гэта значна зачапляе Польшчу, арганізацыя якое і вызначаныя ей граніцы мелі на ўвеце якраз навязаньне ей ролі „абароннага валу“, які аддзяляў-бы Заходнюю Эўропу ад СССР. *Цяпер* ужо Захад не баіцца Радавых Рэспублік. Цяпер „калючыя загарадкі“ непатрэбны. Цераз галаву Польшчы, не пасьпеўшай датарнавацца да новага укладу міжнародавых палітычных адносін, нават яе найлепшая саюзьніца і прыяцелька ў „Вэрсальскай“ Эўропе—Францыя падае руку Маскве...

Так, новы мір, двойчы падпісаны ў Лёндане: з Нямеччынай і з СССР, грунтоўна зьмяняе „Вэрсальскую“ Эўропу. I гэта пагражае дужа паважнымі вынікамі для ўсіх тых новых дзяржаў (у тым ліку — Польшчы), якія ўвесь свой лёс неаглядна зьвязалі выключна з Вэрсальскім Трактатам, кінуўшы ўсё на адну карту...

Адчула гэта ў першы чарод якраз Польшча. I ў сумны тон удэрыла польская прэса самых рознародных кірункаў у сувязі з новай перастройкай міжнародавых адносін у Эўропе. Але зусім натуральных і неабходных вывадаў з новага палажэньня дагэтуль польская палітыка не зрабіла....

## Аб зьезьдзе піянерау беларускае культуры.

(*Гл. С. Б. № 26, арт. „Насьпеўшае пытаньне“*).

Безумоўна так. Зьезд патрэбен, як найхутчэй. Аб гэтым ніякіх спрэчак няма і не павінна быць. Але як падыйсьці да рэалізацыі гэтага зьезду?

Тут адразу паўстае цэлы рад пытаньняў. Па першае—**дзе рабіць зьезд**. Ці на Ўсходзе—ў Менску? Ці на Захадзе—ў Вільні? Яно было-б вельмі добра, каб польская ўлада паразумелася аб гэтым з Беларускаю Радавай Уладай—і каб зьезд адбыўся ў адным з гэтых двух моцных цэнтраў культурнага руху Беларусі. Але... спадзявацца на такое паразуменьне ня прыходзіцца. Ні тая ні другая ўлада на ўступкі ня пойдзе, і зьезд такім чынам ня ўдасца. Мы лічым, што найбольшыя шансы мае **тэррыторыя якое небудзь нэйтральнае дзяржавы—або Чэхаславакія, або Францыя**. У Празе, або Парыжу зусім спакойна могуць зьехацца прадстаўнікі як Радавай, так і Заходняй Беларусі і агульнымі сіламі **на чыста дзелавым грунце вырашыць** усе набалеўшыя пытаньні агульнага беларускага культурнага руху.

Другое пытаньне — **хто павінен гэты зьезд склікаць?** і тут мы лічым найбольш рэальным, калі-б ініцыатыву ўзяла на сябе **адна з міжнародавых навуковых арганізацыяў**. Прадстаўнік гэтае арганізацыі разам з прадстаўнікамі па адным ад Усходу і Захаду склікалі-б свайго роду арганізацыйную тройку, якая падрыхтавала-б зьезд з боку прадстаўніцтва, праграмы і г. д.

Пытаньне Зьезду ня толькі насьпеўшае, але й набалеўшае.

Пяты год скора пойдзе, як Беларусь падзелена. Пяты год піянеры адраджэньня беларускае культуры ня маюць фізычнае магчымасьці нават пабачыцца адны з аднымі, ня могуць сказаць брат брату нават двух слоў прывітаньня, падтрымаць адзін у аднаго бодзёрасьць, сілы. Людзі, для якіх ідэя адраджэньня Беларусі — гэта ўсё, прымушаны, дзякуючы падзелу, біцца, як рыба аб лёд, і часам бяз карысьці марнаваць свае сілы....

Ды й што тут доўга гаварыць. Зразумела ўсё і бяз лішніх слоў!

Беларускія паслы! Вы павінны дабіцца, дабіцца за ўсякую цану ў польскае ўлады згоды на тое, каб склікаць такі Зьезд спачатку ў Заходняй Беларусі, а потым даць магчымасьць (пашпарты, візы і г. д.) выехаць дэлегатам гэтага зьезду на агульна-беларускі зьезд.

Культурныя дзеячы Заходняй Радавай Беларусі павінны дабіцца таго-ж самага ад свае ўлады. Адначасна з гэтым **дыпляматычным способам** павінна быць вырашана, дзе зьезд гэты павінен адбыцца.

15/VIII-24. **В.**

## Да справы 33-х.

Нашая газэта ў свой час адзначыла выпад „самай карэктнай і добра выхаванай“ віленскай газэты „Słowo“—проці 33 беларускіх і літоўскіх дзеячоў, бязпраўна, бо бяз суда і сьледзтва, схопленых і высланых з Віленшчыны на літоўскую граніцу ганебнай памяці ўрадам „Сярэдняй Літвы“ з п. Мэйштовічам на чале.

Мы назвалі хуліганствам агідны паступак польскае абшарніцкае газэты, назваўшае бяз ніякіх падставаў гэткіх, напрыклад, культурна-асьветных дзеячоў, як Гарэцкі, Краскоўскі ці Біржышка, „бацькамі“ і „арганізатарамі палітычнага бандытызму“ на нашых „Крэсах“.

Не магла, зразумела, прайсьці моўчкі міма гэтага выпаду і тая віленская часопісь, якая запраўды стаіць на старожы добрых газэтных звычаяў у Вільні—„Przegląd Wileński“.

Вось, што напісаў з гэтага поваду ў сваіх „заметках“ п. Licz:

„Яскравай праявай гэтай маральнай хваробы ...

...ляецца кавалак з артыкулу Cat'а пад загалоўкам „Стоўпцы“ у № 176 „Слова“.

„Вось што прызнаў магчымым напісаць „прысвоены“ тытулаванымі і ўгалянаванымі абшарнікамі для рэклямаваньня іх сумліўных грамадзкіх заслугаў польскі журналіст аб літоўскіх і беларускіх ідэйных дзеячох, высланых у сваім часе з Вільні за граніцу“.

Падаўшы словы п. Cat'а, п. Licz далей кажа:

„П. Cat вельмі добра ведае, што ані Біржышка, ані кс. пралат Кухта, ані хто іншы з-пасярод 33 высланых заграніцу літоўскіх і беларускіх дзеячоў ніколі ня быў абвінавачаны ў арганізаваньні *палітычнага бандытызму*, аб якім наагул ня было чутно ў 1920—21 г. г., бо-ж гэта—зьявішча апошніх часоў. Ня гледзячы на гэта п. Cat, — каб спадабацца п. Мэйштовічу і рэгабілітаваць яго скампрамітаваныя адміністрацыйныя здольнасьці, не вагаецца кідаць абвінавачаньні на чалавека гэткай меры, як Біржышка, што ён быў

„Да Біржышкі, ані да каго іншага з яго таварышоў па выгнаньню гэты паклёп, зразумела, ня прыстане, але вось самага пана Cat'a дык ужо з поўнай слушнасьцай можна абвінаваціць у практыкаваньні *газэтнага бандытызму*".

П. Cat пачуўся „пакрыўджаным" гэтым і ў наступным нумары „Слова" даводзіць, быццам ён нікога—бяз суда—не асуджаў, але ізноў паўтарае, што нейкія ведамыя яму „акты пракураторыі Сярэдняй Літвы" пярэчаць заяве п. Licz'a.

П. Cat абразіўся на п. Licz'a яшчэ і за яго „выпады асабістага характару" (аб „службе" абшарнікам—Б.). Але для нас найважней тое, што „Słowo" упорна цьвердзіць сваё, пазываючыся на нейкія дакумэнты і „факты агульна-ведамыя", быццам вывезеныя дзеячы лічыліся польскай пракуратурай і дагэтуль лічацца польскім грамадзянствам *за палітычных бандытаў*.

Як бы там ні было, але гэта вельмі важна ведаць беларускаму грамадзянству, бо яно—якраз наадварот—гэтых сваіх і літоўскіх дзеячоў лічыць *найкарысьнейшымі для Краю грамадзянамі і нявіннымі ахвярамі запраўднага палітычнага бандытызму* такіх „адміністратараў", як пан Мэйштовіч...

А з гэтага вынікае ўжо зусім *об'ектыўны* і вельмі важны вывад для будучыны Краю, у якім на няпоўных 10 проц. палякоў прыходзіцца больш як 75 проц. беларусаў і літвіноў,—вывад, які мы тутака сфармулуем у пытаньні:

Ці магчымы ў гэтым Краю добрыя адносіны між нацыянальнасьцямі, калі польскае грамадзянства будзе лічыць „бандытамі" дзеячоў, якіх увесь беларускі народ глыбока шануе, як сваіх гэрояўпавадыроў?

Рэдакцыя „Сына Беларуса", зацікаўленая „рэвэляцыямі" п. Cat'a аб быццам-то істнуючых „актах сярэдня-літоўскай пракураторыі", якія абвінавачываюць вывезеных 33 дзеячоў у „палітычным бандытызьме", каб высьветліць гэтую справу, дэлегавала свайго супрацоўніка да аднаго агульна-вядомага віленскага адваката, які ў свой час згадзіўся, па просьбе родных некаторых высланых, узяць на сябе абарону іх на выпадак, калі яны будуць вернены, каб стануць перад судом, чаго тыя самі дамагаліся.

Адвакат гэты вельмі ахвотна падзяліўся з ім усім тым, што ведаў, як абаронца ў гэтай справе.

„Пасьля арышту 33 беларускіх і літоўскіх дзеячоў да мяне зьвярнуліся брат каноніка Кухты, сястра Яцкевіча, ды жонкі Біржышкі, Гарэцкага і Ляндсбэрга. Я прынцыпова згадзіўся ўзяць на сябе іх абарону, але, згодна з сваім няўхільным звычаем і на падставе закону, які забараняе ўчасьце абароны ў папярэднім сьледзтве, я наадрэз адмовіўся ад усякіх закулісных гутарак з сьледавацелем ці з пракурорам. Але родныя абвінавачаных (жанчыны) ўпорна хадзілі, як да сьледчага, таксама і да пракурора, і з гутарак з імі я даведаўся аб характары абвінавачаньня.

Усіх высланых вінавацілі ў помачы ўраду варожае дзяржавы у здабываньні рознага роду вестак аб унутраным стане Краю,—праступленьні, прадугледжаным арт. 108 (*шпіёнства*).

Ні разу ані сьледчы, ані пракурор ня ўспомніў нават хоць-бы адным словам аб нейкім „палітычным бандытызьме"—тым больш, што гэткага праступленьня нават ня ведае наш Карны Кодэкс.

Я ведаю яшчэ аб тым, што, калі з дазволу ўлады М. Гарэцкі прыехаў у Вільню з Дзьвінску, дык быў зараз жа пакліканы да сьледчага, які дапрасіў яго ў характары абвінавачанага толькі па таму-ж арт. 108 і звольніў яго пад залог толькі 10.000 мар. каб ня ўцёк. Але вельмі цікава тут было тое, што Гарэцкі, даўшы судовай уладзе падпіску аб нявыезьдзе з забясьпечаньнем у 10.000 мар., атрымаў у той-жа дзень ад паліцэйскае ўлады загад ураз-жа пакінуць Край...

Тады, паслухаўшы маей рады, Гарэцкі зьвярнуўся проста да самага Дэлегата Ураду п. Романа, які, як юрыст, зразумеў усю недарэчнась паліцэйскага загаду і прыказаў пакінуць Гарэцкага ў супакоі.

Жыў тут Гарэцкі вельмі доўга—бо-ж толькі нядаўна выехаў, з дазволу ўлады, у Б.С.Р.Р. Але вызаву ў суд ці да сьледчага так і не дачакаўся. Страцілі ўсялякую вартасьць і прапалі і яго 10.000 марак.

Пасьля ўсяго сказанага—ёсьць законная падстава сумлявацца, каб Гарэцкаму закідалася пракуратурай такое цяжкае праступленьне, як „арганізаваньне (таго ці іншага) бандытызму", як гэта даводзіць, пазываючыся на „акты сярэдня-літоўскай пракураторыі", п. Cat.

З усяго абходжаньня сьледчага з Гарэцкім можна зрабіць нават шмат далей ідучы вывад, што мо' нават і тое абвінавачаньне у „шпіёнстве" таксама ня мела паважнае падставы. Хто ведае асабіста М. Гарэцкага, вельмі рашуча можа пасьведчыць аб гэтым.

Вось гэта, так сказаць, *беларускі* прыклад.

Але ня менш, калі ня больш, цікаўны і яркі прыклад літоўскі.

Адзін з высланых літоўскіх дзеячоў, уласьнік друкарні Яцкевіч, быў ужо папросту *„выпісаны"* ў *Вільню* — самім былым прэзэсам сярэдня-літоўскага ўраду, камэр-юнкерам Мэйштовічам! Тым самым п. Мэйштовічам, які выслаў яго, як „арганізатара (палітычнага) бандытызму", паводле „актаў пракуратуры" п. Cat'a!

П. Яцкевіч, прыехаўшы сюды, быў у мяне і прасіў вясьці яго справу.

Праз увесь час яго вельмі доўгае бытнасьці тут яго ні разу нават не зачапіла ніводная ўлада — ані судовая, ані якая іншая,—ня гледзячы на тое, што ён, клапоцячыся ў асабістых справах п. Мэйштовіча (!) павінен быў зварачацца ў розныя ўрадавыя установы.

Справа ў тым, што п. Мэйштовіч даручыў п. Яцкевічу арганізаваць прадажу яго, Мэйштовіча, фальварку з маёнтку Паесьце—ў Ковенскай Літве, а тут за вычучаныя ад гэтай прадажы грошы п. Мэйштовіч, за пасрэдніцтвам п. Яцкевіча, набыў новы маёнтак — Жырмуны.

Яцкевіч жыў тут зусім спакойна ўвесь час, пакуль не правёў для п. Мэйштовіча ўсіх яго спраў і, як да высылкі, так і пасьля высылкі ня быў нават дапрошаны сьледчым, дзеля таго і ня мог мне акуратна сказаць, у чым яго абвінавачывалі.

З усяго гэтага я маю поўнае права вывясьці, што, калі сам п. Мэйштовіч, выслаўшы п. Яцкевіча, як цьвердзіць п. Cat, за „арганізацыю бандытызму", памагаў яму (праўда, толькі ў асабістай сваей справе) вярнуцца назад і бараніў яго праз увесь час яго тут пабыту,—дык ня можа ўжо быць ніякага сумляваньня ў тым, што і гэты літоўскі дзеяч таксама ня толькі ня быў, але нават і ня лічыўся ні ўладай, ні ўжо напэўна-ж асабіста п. Мэйштовічам, як галавою ўлады, арганізатарам „бандытызму", як гэта даводзіць п. Cat.

Можна нават з дужа вялікай пэўнасьцяй дапусьціць і тое, што і Яцкевіч ня толькі ня быў, але нават і ня лічыўся ўладай „шпіёнам"...

Вось усё тое, што я ведаю ў гэтай справе ад саміх высланых дзеячоў.

З усяго гэтага чую сябе ў праве сцьвярдзіць, што тыя весткі, якія падаў аб характары абвінавачаньня гэтых высланых дзеячоў п. Cat, мякка кажучы—не адпавядаюць праўдзе".

Вось факты, якія мы даведываемся ў гэтай балючай для усяго нашага грамадзянства справе.

Нам здаецца, што польская ўлада, пераняўшы судовыя акты „Сярэдняе Літвы", мае абавязак зьліквідаваць усю гэту справу, ачысьціўшы пацярпеўшых ад няслушных і крыўдных маральных закідаў і даўшы магчымасьць вярнуцца ў сваю Бацькаўшчыну прынамся тым з высланых 33-ох беларусаў і літвіноў, якія зьяўляюцца бязспрэчна грамадзянамі нашага краю. **Б.**

# Італьянская часопісь аб беларускай літэратуры.

У трэцім гадавіку італьянскага журналу „L' Europa Orientale" (за 1923 год) надрукавана дужа цікавая стацьця праф. Шчэбедева (украінца) аб нашай літэратуры: La letteratura bianco-rutena. Ужо самы гэты факт сьведчыць красамоўна, што і ў Італіі будзіцца цікавасьць да беларускага народу і беларускага пытаньня. Але ня менш цікавы і зьмест гэнае стацьці, пераказаны ў № 13 часопісі „Przegląd Wileński".

Перш за ўсё аўтар стацьці знаёміць італьянскае грамадзянства з Беларусяй. Паміж іншым, праф. Шчэбедев адзначае, што беларускі народ свае псыхалягічныя рысы выявіў ужо асаблівым, уласьцівым яму, арыгінальным і выключна цікаўным спосабам. Кажучы аб мове, ён лічыць філялягічнай гэрэзіяй гутаркі, быццам асобнасьць тае ці іншае мовы грунтуецца на паходжаньні яе каранёў, а не на фонэтыцы і морфолёгіі. Дый польскія лексічныя (ў каранёх слоў) элемэнты ў беларускай мове вельмі нязначныя. Сучасныя філялёгі ўжо больш і не спрачаюцца аб розьніцах паміж мовай і гутаркай яе („нарэччам", дыалектам), бо гэткая тэрміналёгія знаходзіцца ў залежнасьці ад зьменнасьці і прыпадковасьці лёсу народаў.

Беларускі народ, якому выпала на долю стварыць сынтэз мысьлі Ўсходу і дзейнасьці Захаду, мае ўсё патрэбнае дзеля стварэньня нязвычайна цікаўнае для псыхалёгаў літэратуры. У літэратурнай творчасьці беларусаў увагу праф. Шчэбедева зварачае на сябе салодкасьць, музыкальнасьць і элегійнасьць беларускае паэзіі, якая нагадуе яму часамі творчасьць Fra Angelico.

Агляд сучаснае беларускае літэратуры аўтар пачынае *Купалай*, творы якога былі ўжо перакладаны на мовы: нямецкую, чэскую, польскую, украінскую і расейскую. Купала мо' найбольш інтымны пясьняр Беларусі, якую называе Ніобай усіх народаў. Праф. Шчэбедев падае пераклады цікаўнейшых вершаў Купалы на італьянскую мову,—да прыкладу, першы беларускі гімн: „А хто там ідзе?", які па італьянску пачынаецца гэтак:

Chi va là? Chi va là?
In quella turba numerosa!...
I Biancoruteni.

Апрача таго ён падае адрыўкі вершу „Не бядуй..." па італьянску („Non angosiarti..."), дагледзіўшы ў ім уласьцівую беларусам лагоднасьць.

Далей праф. Шчэбедев пераходзе да *Ясакара-Бядулі*, таксама перакладанага на чужыя мовы, у тым ліку на нямецкую, літоўскую, жыдоўскую.... Шчэбедев дае пераклад яго вершу „Ваяка". які па італьянску пачынаецца гэтак:

Strappa la tua liberta ai denti d'acciaio etc.

Пасьля йдуць крытычна-інфармацыйныя ўвагі аб *Алесю Гаруне* і пробка перакладу яго песьні „Пабеднай"—Tuenarono i tamburi. Урэшце, ў вядомым вершу *Якуба Коласа* „Нашым ворагам" італьянскі пераклад правільна пераказуе галоўную думку яго ў радкох:

Vi chiamiamo davanti al tribunale,
Vai carnefice del popolo nostro....

Гэты цікаўны артыкул заканчываецца гістарычным успамінам аб старадаўных адносінах паміж Беларусяй і Італіяй, дзе ўжо ў сярэдзіне XV сталецьця Fra Mauro ўжываў назову Rossia bianca — да таго-ж, што асабліва цікаўна, побач з Rossia negra, Rossia rossa...

Пераказываючы ўсё гэта, „Prz. Wil." адзначае, што ведамасьці аб беларусах і Беларусі маглі дайсьці і запраўды дайшлі ў Італію вельмі рана, бо, калі папай быў Борджыа, у унівэрсытэтах у Падуі і Вэнэцыі ўжо можна было спаткаць беларускіх студэнтаў, шукаўшых веды ў бацькаўшчыне гуманізму. Там-жа, дадамо, вучыўся і наш вялікі гуманіст і пачынальнік друку ў Беларусі, Францішк Скарына (у Падуі), а ў Вэнэцыі ад 1491 году друкаваліся кірыліцай кніжкі для славянскіх народаў.

# „COR ARDENS".

**К. Сваяк. „Мая Ліра"**. Беларускае Выдавецкае Таварыства. Вільня—1924 г.

(Глядзі №№ 27, 28 і 29 „Сына Беларуса").

Гляньце-ж з гэтага пункту гледжаньня на рад вершаў Сваяка ў гэтым II аддзеле: вы запраўды заўважыце нейкі чарод, нейкі рытм і пульс барацьбы ці змаганьня гэтых двух „ворагаў", „антаганістаў" (супрацiўнікаў) у яго душы. Адзін верш, адзін голас у ім дае перамогу — „Богу" і цэламу стройнаму традыцыйнаму сьветапагляду, у якім на першым месцы ў радзе „маральна-царкоўных" запаведзяў стаіць—пакора, цярплівасьць, малітва, вера і надзея на вонкавага „выбаўцу" і „Даўцу", любоў да ворагаў—на Усходзе і на Захадзе... Другі голас, другі рад вершаў кажа зусім інакш—нешта зусім адваротнае...

І гэтыя вершы як быццам зусім правільна *чарадуюцца* ў гэтым II аддзеле кніжкі Сваяка.

Запраўды,—возьмем прыклад. У вершу „Божа, зжалься" нацыянальная Муза паэта вядзе дыялёг з Богам, заклікаючы Яго „зжаліцца" над беларусам, якога яна-ж сама... падбурае „ўзяць свой лёс у свае рукі"! А што гэтае апошняе азначае ў Сваяка, мы ўжо ведаем. Гэты голас Музы Рэвалюцыі, якая моліцца ў душы паэта аб тым, каб Бог, так сказаць, *напярод даў яе народу адпушчэньне за ўсё, што народ будзе змушаны зрабіць у блізкай ужо прышласьці*, — вельмі характэрны для „зрэвалюцыянізаванага" хрысьціянства паэта.

Але яго Муза ўсё-ж *яшчэ моліцца тут Богу...*

У наступным вершу— „Загляне сонца" настрой зусім іншы. У ім перад усім абвяшчаецца *вайна як Захаду, таксама і Усходу*, з якіх „груганы" і „крукі" аднолькава „шукалі дармовага жыру" на Беларусі, хацелі, „каб з душой мы прапалі": „Боскім" аб'яўляецца тут — зусім у духу „новага хрысьціянства" — толькі „працы натхненьне"!.. Выслаўляецца народны „саматуг", „бляск сонца", паўстаньне зо-сну да жыцьця, „песьні радасьці". Асуджаецца, як найвялікшы грэх, гэты векавы сон народу, гэтая *цярплівасьць у няволі...*

Аб „Богу" тут гаворыцца толькі, што... *„мо' з Яго волі* (народная) кроў зрасіла (беларускую) зямліцу"...

Мы бачым у гэтым — як-быццам запраўды нейкі рытм жывога змаганьня ідэяў і пачуцьцяў у душы паэта. Перамагаюць то адны, то другія...

У вершу „Ой, на Русь ды Белу" — даецца страшны і жудасны абраз сучаснай Беларусі, — з наляцеўшымі на яе стаямі-хмарамі груганоў...

„Зашумелі пушчы, застагналі нівы
„Ад тэй груганoвай-пякельнай спажывы...
„А во—страпянуўся род той груганoвы.—
„Быў здалёку чутны гоман нейкі новы...
„Дзівам зьдзіваваліcь няпрошаны госьці,
*„Бо з зямлі паўсталі беларускі косьці...*
„Ой, вы, лятуценьні, ой, мае-ж вы мары!...
„Каб усталі косьці, непатрэбны чары:
*„Сьлязой палівайце вы родную ніву,*
„Трудом церабіце вы бор гутарлівы,
„Аж пачуйце голас з касьцей айцоў вашых—
*„Груганоў ён спудзіць маскоўскіх і ляшых...*
„Дасьць Бог калісь будзе люд народу братам,
„А Русьняк Маскоўцу да Лехіткі сватам"..

Ізноў—характэрна—устарэўшы *сынтэз* абодвух папярэдніх процілежных ці супярэчных галасоў,—„рэлігійнага тэзісу" і „рэвалюцыйнага антытэзісу".—Моцны, праўдзівы абраз пануючага зла—нейкае „панства груганоў" на Беларусі — і зусім бязсільны „рэцэпт" барацьбы з гэтым злом— „паліваньне сьлязой роднай нівы"... Але трэба справядліва адзначыць і ў гэтым вершу ўжо і запраўды *сынтэтычны мэтад змаганьня*, які дае Сваяк. Гэты мэтад стаўся ўжо агульна прызнаным і запраўды ўжо трыумфуючым на ўсей Беларусі *мэтадам перамогі і вызваленьня*: гэта *„голас з касьцей айцоў нашых"*.. гэта Адраджэньне роднай Мінуўшчыны побач з барацьбой за рэальную нацыянальную Сучаснасьць і лятуценьнем аб далёкай *сьветлай* Будучыне.

Таксама другая пара, ці нават тройка вершаў, аналягічная першай, складаецца з твораў „О, край мой родны", „Гэй, будуйце" і „На крыльлях".—У першым Беларусь рысуецца ў вобразе памёршай з гора і з голаду дзяўчынкі... Беларусь—„краіна гора, бяз долі, бяз волі". Канаючы, дзяўчынка наказала паэту „ня траціць надзеі нідзе і ніколі" і *„на крыж сумна паказала"*.— Значыць—цярпі і маліся, народзе Беларускі!? Гэтак кажа *адна душа* паэта — старая, „рэлігійная"... Так кажа „тэзіс". Але „антытэзіс" кажа зусім інакш, бо паслухайце-ж самі:

„Гэй, будуйце"!—кажа гэты другі голас,—
„Няма праўды як схаваці—
„Ўсё пайшло цяпер інакш:

# Палітычныя падзеі.

## Новая небясьпека на Горным Сьлёнску.

Толькі што закончылася забастоўка на Г. Сьлёнску поўнай перамогай капіталістаў і паражэньнем работнікаў, — а ўжо на гэты самы Сьлёнск налящела пагроза новае небясьпекі.

Перамога над працаўнікамі толькі распаліла апэтыты прамысловых акулаў, з якімі бязсільны і бязвольны бароцца ўрад п. Грабскага. На моцы пануючага на Сьлёнску дзіўнага закону, які дае права прамыслоўцам у кожны мамэнт выкінуць на вуліцу, пазбавіўшы працы, 5 проц. работнікаў, прамыслоўцы і маняцца пазбыцца ўсіх тых элемэнтаў, якія найбольш „скампрамітаваны“ ў часе забастоўкі, ды адначасна зьменшыць выдаткі на работнікаў. Гэткім чынам у адным толькі горным промысьле звольнена ў гэты панядзелак больш за 25.000 працаўнікоў.

Ідуць чуткі, што гэта — толькі пачатак.

Нямецкія газэты пішуць, што ўсе гэтыя беды — „рэзультат падзелу Сьлёнска“...

Ці справіцца польскі скарб з новай арміяй безработных?!

## Важнае паседжаньне Рады Міністраў.

21 адбылося ў рэзыдэнцыі п. Прэзыдэнта ў Спале паседжаньне Рады Міністраў, на якім абгаварываліся важныя справы, зьвязаныя з усходняй (расейскай) палітыкай Польшчы і з падгатоўкай польскага ўраду да верасьнёвай сэсіі Лігі Народаў.

20 жніўня прэм. Грабскі меў доўгую канфэрэнцыю з міністрам асьветы — ў справе украінскага Унівэрсітэту і — з міністрам унутр. спраў — у справах „крэсавай“ палітыкі.

## Новы замах на цягнік.

На цягнік, які йшоў з Львова ў Варшаву, паміж станцыямі Рэйовец—Бэлжэц зроблены новы замах. Няведамыя і няўхопленыя праступнікі падлажылі пад цягнік на рэльсы бомбу, якая выбухнула, не зрабіўшы, на шчасьце, шкоды.

## Проціпольская агітацыя ў Літве.

„Kur. Poran.“ падае, быццам асобы, прыехаўшыя з Літвы, кажуць аб узмацаваньні там агітацыі проці Польшчы. Агітатары пускаюць чуткі, быццам яшчэ ў гэтай восені будзе вайна з Польшчай — дзеля адабраньня Вільні.

## Літоўская прэса аб палажэньні ў Віленшчыне.

„Усх. Аг.“ падае, што піша літоўская прэса аб нападзе на Стоўпцы ў зьвязку з агульным настроем у Віленшчыне.

Вось адрывак з урадавай літоўскай газэты.

„Уся Віленшчына прадстаўляе гэткі развогнены матар'ял, што кожная, нават малая, іскра можа яе запаліць. Зражанае і ненавідзючае адміністрацыю насяленьне, дзесяткі меншых і вялікшых партызанскіх аддзелаў, камуністычныя арганізацыі, — усё гэта можа паставіць польскую ўладу ў палажэньне бяз выхаду, як толькі яна пачуе пад бокам аружную сілу радавых баявых групаў“.

## Пробная мабілізацыя ў СССР.

З Масквы ў Бэрлін пішуць, што пробная мабілізацыя чырвонай арміі, у зьвязку з здарэньнямі на Балканах (грэка-баўгарскі канфлікт, які можа разгарэцца ў вялікую завіруху) адложана на 30 жніўня. Рэквізіцыя каней скончана 10 жніўня.

Калі гэтыя весткі праўдзівыя, дык гэта пахне ня толькі Балканамі...

## Сэсія Рады Лігі Народаў.

22 жніўня адчыняецца сэсія Рады Лігі Народаў, якая падгатуе матар'ял для Агульнага яе Сабраньня ў верасьні.

На павестцы сэсіі — справы Аўстрыі, Вэнгрыі, Баўгарыі, Гданска-польскія, справы ваеннага кантролю над Нямеччынай, спрэчкі паміж Англіяй і Турцыяй аб Мосуль. ПАТ ня кажа, ці ёсьць якія справы яшчэ... Толькі „Варшаўскае Эха“ падае вестку аб тым, што Польшча ня будзе на гэты раз дабівацца... месца ў Радзе Лігі.

## Праўда аб грэка-баўгарскім канфлікце.

Міжнародная камісія, якая разглядала справу забойства некалькіх дзесяткаў баўгарскіх сялян быццам арыштаваных за „палітычны бандытызм“, на пагранічча з Грэцыяй, сьцьвердзіла, што ўсе яны былі забіты папросту грэцкімі пагранічнікамі — бяз усякіх з іх боку повадаў. А мы ведаем, што пісалі аб гэтым „вызываючым руху ў Баўгарыі“ грэцкія газэты, — як грэцкі ўрад ужо рыхтаваў „карацельную коаліцыю“ проці Баўгарыі — разам з Югаславіяй і Румыніяй....

## Бунт жаўнераў-пацыфістаў у Югаславіі.

З Бэрліна наказуюць, што нованабраныя рэкруты масамі адмаўляюцца служыць у войску. Зроблена шмат арыштаў.

## Разрухі ў Албаніі

На грунце выпаўненьня загаду албанскага ўраду аб прымусовым адабраньні аружжа ў насяленьня, пачаліся па ўсім краю хваляваньні. Шмат людзей пераходзяць граніцу да Югаславіі.

## Сэнсацыйная справа.

Вядомы турэцкі генарал Рыфат-бэй, губэрнатар правінцыі, сумежнай з Арабіяй, схоплены няведамымі праступнікамі і вывезены ў напрамку Багдаду. У Турцыі перакананы, што гэта зроблена англійцамі, бо Рыфат-бэй быў вядомы, як чынны праціўнік Англіі.

## Разрухі ў Італіі.

З прычыны знаходу трупа Маттэотті ў некалькіх местах Італіі ўзьняліся бойкі паміж фашыстамі і нефашыстамі. Ёсьць забітыя, шмат раненых.

## Паўстаньне ў Афганістане пашыраецца.

Маскоўскія газэты падаюць, што паўстаньне ў Афганістане проці сучаснага эміра пашырылася і перакінулася да Бухары, дзе так сама нездаволены эмірам.

# Пасьля Лёнданскай Канфэрэнцыі.

## „Новая эра ў Эўропе“.

У гутарцы аб рэзультатах Лёнданскай Канфэрэнцыі з парыжскімі журналістамі францускі прэм'ер Эрыо сказаў, што з яе памысным канцом у Эўропе наступае „новая эра“.

## Настроі ў Нямеччыне.

З Бэрліну наказуюць, што, чым больш умацоўваецца франка-нямецкае паразуменьне, тым мацней узьнімаецца ў нямецкім грамадзянстве думка аб звароце Нямеччыне аддадзеных Польшчы земляў.

Гэтымі днямі Ўсходня-Пруські Саюз арганізаваў у Штэтыне вялізарную маніфэстацыю пад пачэсным старшынствам генарала Макензэна. На вечы аратары заклікалі народ рыхтавацца да барацьбы за зварот адабраных у Нямеччыны земляў.

Адначасна на ўсім пагранічча з Польшчай арганізуюцца баявыя дружыны дзеля падгатоўкі насяленьня да будучай вайны.

## Новыя выбары ў Нямеччыне?

Як ведама, паводле нямецкай канстытуцыі для ратыфікацыі лёнданскіх умоваў патрэбна „кваліфікаваная“ большасьць у Рэйхстагу: дзьве трэці галасоў.

Але становішча нацыяналістаў, камуністаў, а, можа, і людоўцаў выклікае сумляваньне, ці Рэйхстаг зацьвердзіць гэтыя ўмовы? Тады ўрад змушаны будзе вызначыць новыя выбары. І канцлер Маркс ужо заявіў рашучую пастанову ўраду скарыстаць з гэтага права. Урад вельмі энэргічна вядзе перагаворы з партыямі.

## Эвакуацыя нямецкіх абшараў.

У зьвязку з лёнданскімі ўмовамі цэлы рад акупаваных французамі нямецкіх абшараў эвакуаваны. Эвакуацыя адбылася ў поўным парадку, бяз усякіх „выпадкаў“.

## Спыненьне працэсаў аб „проці-сэпаратызм“.

Француская ўлада спыніла ўсе працэсы проці тых немцаў, якія актыўна бароліся з гэтак званым „рэйнскім сэпаратызмам“, робленым пераважна за францускія грошы. Шмат людзей выпушчана з вастрогаў.

## Ліст Мак-Дональда.

Мак-Дональд пасьля аканчаньня Лёнд. Канфэрэнцыі выслаў да прэм'ераў Францыі і Бэльгіі вельмі цікаўны ліст.

Уступіўшы амаль не на ўсей лініі гэтым прэм'ерам, цяпер, пасьля Канфэрэнцыі, Мак-Дональд піша, што ён, як і ўсе папярэднія англійскія ўрады, ніколі не прызнаваў законнасьці францускай акупацыі Руры. Цяпер, калі Канфэрэнцыя, хаця ня меўшая паўнамоцтваў у гэтай справе, сьцьвярдзіла аднак-жа рашуча вялікую шкоднасьць для гаспадарчага адраджэньня Нямеччыны ваеннай акупацыі, якая, як даводзяць самі французы, мела толькі гаспадарчыя мэты, дык калі цяпер гэтыя францускія гаспадарчыя мэты забясьпечаны Лёнданскімі ўмовамі, Францыя і Бэльгія павінны, як могуць хутчэй, зьняць акупацыю, не чакаючы гадавога тэрміну.

## Генаральны кантралёр у справе адшкадаваньняў

Камісія Адшкадаваньняў мае ў бліжэйшых днях запрапанаваць амэрыканцу Оўн Юнгу становішча Генаральнага Кантралёра ў справах спаганяньня з Нямеччыны адшкадаваньняў.

# ХРОНІКА.

## Канфіскацыі „Сына Беларуса“.

**№ № 28 і 29 „Сына Беларуса“ сканфіскаваны, як заявіў Камісар Ураду на м. Вільню паслу Тарашкевічу, за надрукаваньне літэратурнага фэльетону „Cor ardens“ аб зборніку вершаў Сваяка пад загалоўкам „Мая лера“—з адрыўкамі „праступных“ вершаў.**

**Адзначаем, што зборнік „Мая лера“ надрукаваны зусім легальна ў Вільні колькі месяцаў назад і прайшоў тады праз цэнзуру таго-ж самага Камісара Ураду....**

У № 28 у перадавіцы выяўлена праступная прошласьць галоўных дзеячоў так-званага „Грамадзянскага Сабраньня“: Валэйшы, Знамяроўскага і Косьцевіча.

№ 29 быў пасьвячоны памяці вялікага беларускага адраджэнца, тварца сучаснага беларускага руху, Івана Луцкевіча, з прычыны пятых угодкаў яго сьмерці.

**К пятым угодкам сьмерці Івана Луцкевіча.** 20-га жніўня, у пятыя ўгодкі сьмерці Івана Луцкевіча, адбылася ў касьцелі сьв. Мікалая жалобная імша, на якой былі ўсе выдатнейшыя беларускія дзеячы дзеля ўшанаваньня памяці свайго памершага правадыра.

---

„Пан пакінуў гультаваці,
„А між намі меней плакс...
„Даўней толькі наракалі,
„Толькі чухалі галоў —
„Ныні плакаць перасталі,—
„Усё вернуць стрымгалоў...“

Аўтар далей рысуе абраз новага—працоўнага, актыўна-радаснага жыцьця, лішне мо' нават некрытычна оптымістычны ў сучасных варунках нашага заходня-беларускага быту:

„Гэй, будуйце-ж, мае людцы,
„Жыцьцё новае наўкруг,
„Нават сонкі хай прачнуцца —
„*Хто ня вораг—будзе друг!..*“

Мы бачым, як бадзёрная струя жыцьця дадае нават запраўднага *музыкальнага рытму словам Сваяка.*

Гэтая перамога зла—мэтадамператварэньня яго дысцiплiнаванай навукай, ажыўленай калектыўнай, усенароднай радасьцяй, *працай над сваім полем*, гэтае ператварэньне панскіх „*двароў у школы*“, аб якіх ужо запраўды *пяе* ў гэтай песьні вольнай працы Сваяк, увесь гэты пекны абраз перарабленьня „няворагаў да другаў“—дык ці-ж гэта магчыма ў нас у Заходняй Беларусі?!.

„Хто ня вораг—будзе друг“...

А што-ж рабіць з *ворагамі*? аб гэтым паэт ужо казаў раней... У гэтым вершу гэтае „раўненьне далін і гораў“ ужо скончана, народ спакойна і вясёла „школы робіць з двароў“...

Як бачым, у гэтым вершу „сынтэз“ аднесены... не да Заходняй Беларусі!

Трэцяя тройка таксама пачынаецца „малітвай“: „Пашлі мне, Божа“, пасьля якой ідзе запраўды шатанская „песьня да гарэлкі“, у якой топіцца гэты пракляты і блудны „мэтад“ барацьбы са злом, гэткі пашыраны на Беларусі.

Гэтая „чарачка“ патрэбна беларусу дзеля таго, каб

„Не глядзеці, як брат родны
„Душу прадае,
„Пазабыўшы шлях свабодны
„І песьні сваё“...

„...Забыці родную
„Сваю старану...
„Перад Богам каб упасьці,
„Яго умаліць; —
„Або вечна запрапасьці,
Бо душа баліць...

Гэтай гарэлкай Сваяк заклікае ляпей

„Прагавіту каб скаваці
„Чужынца руку,
„Зельлем розум счараваці
„Яму—павуку“!

Рэвалюцыйны гук тут чуецца нават у самым зьменным рытме гэтай „чартоўскай песьні“—ў гэтым „гімне чарцы гарэлкі“...

II аддзел кніжкі канчаецца запраўды суб'ектыўна-сынтэтычным вершам — „Чары Айчыны“, у якім пясьняр расказывае нам, як ён *вылячыўся ад хваробы і „маны бязьверы“ — „чарамі Айчыны“, „лекам яе красы“—любоўю да роднае зямелькі.*

І ад гэтага часу, кажа ён, —

„...Цяпер я ўжо здаровы
„Жыву-прыпяваю;
„Шчэбет птушак, шум дубровы
„Гэты цуд спраўляе.

„Гэй, ты, родная старонка,
„Гэй, краёчак мілы!
„Хваліць буду цябе звонка
„Да самай магілы!

„Ты цярпеньне душы гоіш
„І зьнямогу цела,
„Жыцьцё творыш, песьні роіш:
„Вучыш жыць умела!“

Як бачым, „Айчызны Ідэя“ перамагла „магільны холад душы паэта, вылячыла яго і фізычна і духова ад яго перанятай ад айцоў хваробы— „блудна-пасыўнай“ рэлігіі, збудзіўшы нават у яго творчай душы застыгшыя, замораныя ў ёй *жывыя рытмы*, — удыхнула ў Ліру паэта нават *неставаўшую ёй Музыку...*

З вельмі павучальнага і цікавага зьявішча гэтай барацьбы выцякае мо' найвялікшай важнасьці *цантральная для нашых часоў праблема запраўднага ўзгадненьня і аб'яднаньня ў адзінай праўдзівай Рэлігіі ўсяго жывога і непераможнага зьместу чалавечага і народнага жыцьця!..*

І вось над гэтай праблемай б'ецца з вялікай шчырасьцю і наш Сваяк, і ў гэтай *паэтыцкай шчырасьці*, у гэтай яго бязстрашнасьці перад праўдай—вялікая яго заслуга і вялікі павучальны зьмест яго паэзіі.

**Суліма.**

**У Беларускім Навуковым Таварыстве.** На засяданьні Ураду Т-ва 20-га жніўня сабраныя перш за ўсё ўшанавалі памяць Тварца гэтага Т-ва і Беларускага Музэю, Івача Луцкевіча, з прычыны выпаўшых у гэты дзень пятых угодкаў сьмерці Яго.

Старшыня Скарынінскае Сэкцыі Т-ва, грам. Астроўскі, зрабіў справаздачу аб дзейнасьці Сэкцыі па збору грошы і падшуканьню дому дзеля куплі пад Музэй.

Урад пастанавіў набыць адзін з выбраных Сэкцыяй дамоў і даў Сэкцыі адпаведныя паўнамоцтвы.

Пастаноўлена так-жа прыступіць, згодна з прапазіцыяй старшыні Т-ва, А. Луцкевіча, да арганізацыі выстаўкі беларускае кнігі ў дзень сьвяткаваньня 400-летняга юбілею беларускага друку ў Вільні, які прыпадае ў 1925 годзе.

Абгаварывалася так-жа пытаньне аб дню сьвяткаваньня юбілею, але гэтая справа йшчэ аканчальна ня вырашана.

**Пацешная гісторыя.** У апошнім нумары валэйшаўскага „Грамадзкага Голасу“ была надрукавана заметка, быццам „Грамадзянскае Сабраньне“ маніцца ўзяць на сваё утрыманьне прытулак для беларускіх дзяцей Беларускага Камітэту помачы пацярпеўшым ад вайны.

Нас просяць адзначыць, што ў адказ на гэта Камітэт паслаў „Грам. Сабраньню“ гэткае пісьмо:

Грамадзянскаму Сабраньню ў Вільні

(Людвісарска вул. № 4).

У сувязі з хранікёрскай весткай у газэце „Грамадзкі Голас“ №14 пад загалоўкам: „Падмога беларускаму прытулку“ гэтым сцьверджаю наступнае:

1) Адзіным праўным уласьнікам беларускага прытулку ў Вільні (Вострабрамская 9) зьяўляецца Беларускі Камітэт помачы пацярпеўшым ад вайны.

2) Загадчыца прытулку Г. Кавэрда ня мела паўнамоцтваў ад Камітэту дзеля перагавораў з Грамадзянскім Сабраньнем адносна вызначэньня з бюджэту апошняга нейкае сталае запамогі, ці тым больш перадачы прытулку гэтаму-ж Сабраньню.

3) Матар'яльнае становішча прытулку зусім не такое, якім яго быццам прадставіла загадчыца.

Прыймаючы пад увагу вышэй сказанае, маю гонар запытаць Грамадз. Сабраньне:

а) Ці атрыманыя на прытулак 95 злотых лічыць звычайнай без'інтэрэсоўнай ахвярай, — тады ад імя Камітэту прыміце падзяку;

б) Ці мо' гэта падачка дадзена з успомняным ў газэцд варункам,—тады атрыманыя грошы Грамадзян. Сабраньню Камітэт верне, бо й надалей права ўтрыманьня й кіраваньне прытулкам Камітэт помачы пацярпеўшым ад вайны ў Вільні пакідае за сабою.

З пашанай Р. Астроўскі
Старшыня К-ту.
За Сэкрэтара (нячытэльна).

Пісьмо гэтае было здадзена ў „Грам. Сабраньні“ пад расьпіску ў разноснай кнізе Камітэту. Цераз пару гадзін, аднак, яно было ўкінута ў кватэру Старшыні Камітэту—**з яўнымі адзнакамі расклейкі і паўторнай заклейкі яго** і з надпісам: „Якому Грамадзянскаму Сабраньню адрэсавана?“.

Відаць, махэры ад „зялёнага стала“ хочуць „аблагародзіць“ свой спосаб заробку і за ўсякую цану пераканаць грамадзянства, што яны ня толькі „палітыкі“, але і „благотворители бѣлорусскаго народа“, дык і робяць від, што пісьма „не прачыталі“...

З брудных рук грамадзянства грошы ня прыймае!

## Добры праект.

У стацьці пад загалоўкам: „Закладайма беларускія бібліатэкі й чытальні“ газэта „Крыніца“ піша аб палажэньні ў Заходняй Беларусі:

„Нішчыцца ўсё беларускае, дзе толькі яно сустракаецца. Школа беларуская на Беларусі ня істнуе, яе замяніла польская, як даўней расейская; мову беларускую заглушаець мова польская. Настаў такі цяжкі час для сьвядомай патрыатычнай беларускай інтэлігенцыі, што проста немагчыма.

„Народ вымагаець сваей школы — „samorządy“ перашкаджаюць. Дык як ратавацца ад гэнай бяды? Адзін са спосабаў — гэта **арганізацыя бібліатэк-чытален па большых вёсках.** Не даюць дзецям вучыцца ў роднай мове, дык трэба даць асьвету моладзі праз арганізацыю бібліатэк. Інструкцыі і статут гэных бібліатэк павінны быць апрацаваны праз „Навуковае Таварыства ў Вільні“, а старацца зацьвердзіць гэны статут павінны нашы паслы і сэнатары.

„Арганізацыя гэных бібліатэк пераможа русыфікацыю і палянізацыю нашага краю. Дык, братцы беларусы, ня чурайцеся гэных бібліатэк! Калі яны будуць адчынены, усе тоўпамі сьпяшыце ў бібліатэку беларускую, сялянскую, як на той маяк, каторы ратуець тонучых мараходаў ад пагібелі“.

Вельмі горача падтрымліваем гэту думку, толькі думаем, што зьдзейсьніць яе павінна не Навуковае Таварыства, якое, згодна з статутам, ня мае на гэта права, а **Таварыства Беларускае Школы**, якое, паміж іншым, паставіла і гэтую задачу ў сваім статуце.

***Ніколі не зьнішчажай сваей беларускай газэты! Прачытаушы, давай суседу, ці знаемаму, каб і ён пазнау прауду аб жыцьці свайго народу і даведауся, што робіцца на сьвеце!***

## Весткі з вёскі.

**Калі канец?**

(*Карэспандэнцыя з Горадні*).

У суботу 16 жніўня 1924 г. а 6 гадз. веч. ў Горадні да М. Якімовіча зьявілася паліцыя ад экспазітуры 5 ф. пры старостве дзеля вобыску на падставе, як заявіў вывядоўца, распараджэньня Горадзенскага старосты. Пры вобыску шукалі „антыпанствовай“ літаратуры—беларускай, камуністычнай, а таксама аружжа. Пры гэтым „вывядоўца“ спытаўся, дзе Якімовіч быў сёньня? Якімовіч адказаў, што ўвесь дзень знаходзіўся ў хаці, бо бацькі яго выехалі на вёску, і апякуецца хатняй гаспадаркай ён, алеж у часе абеду насіў сваю кашулю да знаёмых, каб зрабілі новы каўнер, і вярнуўся хутка да хаты, а падарозе спаткаў гэтага самага вывядоўцу, які прыйшоў рабіць вобыск. Вобыск трываў $1^1/_2$ гадз., а пасьля вывядоўца заявіў, што Якімовіч арыштаваны. Пры вобыску нічога ня знойдзена.

Якімовіч разам з вывядоўцам пайшоў да экспазітуры 5 ф., дзе начальнік запытаўся ў яго, куды ён сёньня хадзіў, на што Якімовіч паўтарыў свой адказ, дадзены ўжо вывядоўцу. Ніякога дапросу ня было, і Якімовіч быў звольнены ў 8 гадз. веч.

Цікавы факт, што начальнік экспазітуры заявіў Якімовічу, што ён, як беларускі дзеяч, мае зносіны з Беларускім Пасольскім Клюбам, а таксама з пасламі, і рана ці позна прыдзецца яго арыштаваць, бо ён зьяўляецца мазалём для іх.

Якімовіч ніякай палітыкай цяпер не займаецца, а лечыцца пасьля выхаду свайго з вастрогу, алеж адміністрацыя ня можа згадзіцца з тым, што цень Якімовіча відаць у Горадні, і рыхтуе зноў мейсца яму ў вастрозе... **N.**

**„Горш куды за паншчыну“.**

У Вялікім-Дварэ, Гарадзейскае гм., Нясьвіжскага павету, ёсьць аканом Кастусь Хмель, які ўсімі сіламі стараецца вярнуць паншчыну з сваім памагатым, Васілём Чыжыкам, якога паставіў намесьнікам. Ось якія гвалты робяць гэныя панскія падлыжнікі: 14 жніўня гэтага году жыхары вёскі Ахрэмавічы, Гавязьнянскае гм., вазілі ў Вялікі-Двор дрэва за нанятую імі пашу. Адзін з жыхараў вёскі Ахрэмавіч на благенькім коніку ня мог давязьці крокаў трыццаць да вызначанага месца свае дзеравіны, бо прыстаў конь. Тагды аканом падскочыў да беднага жыхара і стаў з кулакамі над ім трасьціся, пытаючы, чаму ён не давёз дзеравіны. Жыхар яму адказвае: што конь ня цягне. Аканом, доўга не чакаючы, пачаў смаліць з вуха на вуха. а памагаты намесьнік падбег з калом, і ў двух зьбілі беднага Ахрэмаўца да паўсьмерці. Справа пайшла да міравога судзьдзі.

**Вялікадворац.**

**Мястэчка Паставы.**

У мінулую нядзелю, гэта 17 жніўня, прыехалі да нашага мястэчка два паслы: адзін—сэнатар Адэльман з Кракава, другі—ксёндз з Беластоцкага ваяводзтва, з Сойму; абодва сказалі, што яны з партыі Хрысьціянскай Дэмакр.

Людзі, якія былі, сабраліся слухаць. Вось, што яны казалі:

Сэнатар казаў аб зруйнаваньні Польшчы вайной і што адбудавалі ўжо 60% усіх збураных дамоў (але каго адбудавалі ў нас, ня чуваць!), і што астаецца толькі 40%! І многа далей чаго на гэту тэму.

Пасьля сэнатара казаў ксёндз. Усіх прызываў ён да працы над цясьнейшым збліжэньнем з Польшчай.

„Што-ж нам дала Расея? вошы, курныя хаты і водку (а ці Польшча гэта выводзіць!?). А што дае Літва? грыбы, лён і лес—праданы ўжо немцам (якбы ў нас мала прадалі!). А што-ж, вы думаеце, дае нам Беларусь? толькі хваробу-калтун! Немцы-ж нічога не далі, толькі абрабавалі гэты край. Дык выходзіць, што ўсюды дрэнна, толькі Польшча можа даць добрае жыцьцё.—Гэтак казаў ксёндз.

І вось, як ён пачаў пісаць разалюцыю: „Дамагаемся папраўленьня скарбу...“,—з народу пачалі крычаць: „але другім спосабам, як дагэтуль папраўлялі!“,—„А дзе зямельная рэформа?—мы яе дамагаемся!“—усё крычалі з таўпы. „Зямельная рэформа—пад сукном ляжыць! А на што нам гэтулькі паліцэйскіх? нам аднаго аж за многа!“

Ксёндз нешта запісаў у кніжку і з сэнатарам пайшлі з веча, а камандант пачаў разганяць народ, каб не стаялі кучамі. Дык невядома, што гэныя хадэкі напішуць у сваей газэце пра гэтае веча? Мусіць ня надта смачна ім паказалася!

**Беларус.**

## З УСХОДНЯЕ БЕЛАРУСІ.

**Прадстаўнік БСРР пры ўрадзе ССРР.**

Рада Народных Камісараў пастанавіла назначыць паўнамоцным прадстаўніком БСРР пры ўрадзе ССРР грам. Славінскага.

Кандыдатура Славінскага ўнесена на зацьверджаньне прэзыдыуму ЦВК БСРР.



**Зачыненьне факультэту грамадзянскіх навук.**

На апошнім пасяджэньні калегіі Нар. Кам. Асьветы пастаноўлена ад пачатку новага вучэбнага году зачыніць факультэт грамадзянскіх навук пры БДУ. — „Гасьцінец“ для БДУ — невясёлы!

**Рыбная гаспадарка БСРР.**

Дзеля абсьледаваньня значных вадаёмаў Беларусі з мэтай завядзеньня на іх культурнай рыбнай гаспадаркі, Нар. Каміс. Зямляробства БСРР наладзіў навуковую экспэдыцыю са спэцыялістаў—рыбаводаў Ціміразеўскай сел.-гасп. акадэміі, пад кіраўніцтвам прафэсара Ф. А. Сьпічакова.

Экспэдыцыя распачала працу 1-га чэрвеня і да 1-га ліпеня зрабіла абсьледаваньне вазёр: „Князь“ абшар 11.000 дзес., „Белае“ — 175 дзес., „Лукомль“— 3.000 дзес., „Асьвей“ — 4.200 дзес. і „Няшчэдра“—2.650 дзес. Апроч таго, экспэдыцыя абглядзела разбураныя рыбныя гаспадаркі ў саўхозе „Красная звезда“ (28 сажалак — 217 дзес.) і Жыткавіцкага лясьніцтва (56 сажалак — 1000 дзес.)

У сучасны мамэнт вядзецца стацыянарнае абсьледаваньне на вазёрах: „Лукомль“, „Няшчэдра“ і „Асьвей“.

Праца экспэдыцыі працягнецца да 1-га кастрычніка г. г.

**Замежны гандаль БСРР.**

У зьвязку з ліквідацыяй нямецка-савецкага канфлікту, Управа Дзяржаўнага Гандлю БСРР пачала адпраўку тавараў у Нямеччыну.

Першую партыю тавараў з Беларусі складае пушніна.

Управай Дз. Гандлю у пачатку лета быў наладжаны збор лякарскіх траў для экспорту.

У хуткім часе пачнецца адпраўка іх заграніцу: у Нямеччыну і Латвію. Першая партыя лякарскіх траў ужо гатова да адпраўкі.

**Электрыфікацыя вёсак.**

Менскай мястова-павятовай радай пастаноўлена выдаць Заслаўскаму Вал. Выканаўчаму камітэту 2.000 руб. на электрыфікацыю бліжэйшых да мястэчка 3-х вёсак: Дзякноўкі, Загор'я і Нябрэскі.

**Аб паўпрацоўных гаспадарках у Меншчыне.**

Згодна з артыкулам 95 і 96 зямельнага кодэксу БСРР аб працоўнай норме пры абрэзцы паўпрацоўных гаспадарак, нарадаю ў НКЗ ухвалены наступныя нормы для 6-цёх раёнаў Меншчыны:

| *Раён:* | *ворава:* | *сенажаці:* | *усяе выдабы:* |
|---|---|---|---|
| I | 6,6 дз. | 3,3 дз. | 9,9 дз. |
| II | 6,6 „ | 3,8 „ | 10,4 „ |
| III | 5,2 „ | 5,9 „ | 11,1 „ |
| IV | 7,2 „ | 4,0 „ | 11,2 „ |
| V | 8,9 „ | 4,6 „ | 13,5 „ |
| VI | 6,3 „ | 7,5 „ | 13,8 „ |

Паказаныя нормы прызначаны для гаспадарак, налічваючых у сябе 4 і менш працоўных адзінак; пры большым ліку прац. адзінак норма прапорцыянальна павялічваецца.

Нявыдабныя землі (няўдоб'е) застаўляюцца ў тэйжа прапорцыі, як і выдабныя, толькі яны не павінны перавышаць прызначанага для кожнага раёну сярэдняга процанту ад плошчы выдабы.

Павятовым зям. кіраўніцтвам дадзена права для асобных валасьцёў падвышаць або зьніжаць паданыя нормы на 20 проц.

Астача ад абрэзкі павінна пайсьці на надзяленьне малазямельных і безьзямельных двароў, якія атрымаюць зямлю ў колькасьці адваротна прапорцыянальнай іх заможнасьці ў момант землеўпарадкаваньня.

## Наша пошта.

1) **Тодару Сеглюку.** 4 зл. атрымалі. Газэту высылаем; 2) **Сымону Томку.** 4 зл. атрымалі. Газэту высылаем; 3) **Кнігарні Т-ва „Просьвіта“.** 2 зл. атрымалі. Газэту высылаем; 4) **М. Саўцы.** 3 зл. 35 гр. атрымалі; 5) **М. Троцкаму.** 2 зл. атрымалі. Газэту высылаем; 6) **Зьмітраку Кацубе.** 2 зл. атрымалі. Газэту высылаем; 7) **Аляксею Іванаву.** 10 зл. атрымалі. Напішэце, з якога часу выпісываеце газэту, тады аблічым Ваш доўг; 8) **К. Міскевічу.** 2 зл. атрымалі; 9) **Ант. Сушко.** 6 зл. атрымалі. Вам пасылаем 2 экз. газэты, а на адрасы, каторыя Вы прыслалі, па 1-му экзэмпляру.

**Грам. Ів. М—чу ў Бэрліне.** Пісьмо атрымалі. За карэспандэнцыі аб жыцьці нашых беларусаў на чужыне будзем вельмі ўдзячны. Першая Ваша карэспандэнцыя, відаць, прапала пры нейкім няпрыемным выпадку, якіх у нас многа! Газэта будзе йсьці па новаму адрасу.

**На прэсавы фонд „Сына Беларуса“.**

1) Сабраныя праз дэпутата П. Мятлу на мітынгу ў Порплішчы 3 зл. 43 гр.; 2) Ад Я. Радзюкевіча 1 доляр атрымалі і залічылі яго на Прэсавы Фонд.



Рэдактар-Выдавец **М. Шыла.**
Друкарня Леві і С... Вільня [illegible]